



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

3 мая 2019 года №18 (1253) 18+








# Як правесці вялікія майскія выхадныя з карысцю

**Сёлета каляндар падарыў нам шэраг выхадных у пачатку мая. Такой удачай варта распарадзіцца з розумам, каб пасля не шкадаваць, што такі шанец змарнавалі.**

**Прапануем вам спіс спраў, якія варта зрабіць за гэтыя канікулы. Праз тыдзень адзначце птушачкамі справы, якія зрабілі. Праверце, ці скарысталі вы выхадныя напоўніцу.**

- Зрабіце сапраўдную генеральную прыборку дома. Разбярыце шафы, памыйце вокны. І выкіньце тое, чым не карыстаецеся.
- Навядзіце парадак на магілках. Толькі не стаўце пластыкавыя кветкі! Гэта вельмі неэкалагічна. Пра Радаўніцу чытайце на старонцы 5.
- Займіцеся агародам, пасадзіце бульбу. Калі агарода няма – купіце прыгожыя шматгадовыя кветкі ў кватэру. Няхай ваш балкон будзе нібы ў казцы. Вы ж там ужо навялі парадак!
- Правядзіце вечар з дарагімі людзьмі без ніякіх гаджэтаў. Выдзеліце гадзіну на тое, каб пазваніць іншым блізкім – бацькам, сябрам, былым калегам.
- Парадуйце сябе. Схадзіце на манікюр, адважцеся на новую стрыжку. Купіце якасную дарагую рэч – кашалёк, абутак ці сонечныя акуляры.
- Даведайцеся нешта новае пра важнае. Наведайце тэатр, пачытайце кнігу. Ці з'ездзіце на ноч танцаў. Падрабязней – на старонцы 20.
- З'ешце жабу. Гэтым выразам французы называюць не самую прыемную справу, якую трэба вырашыць, а вы даўно адцягваеце час.
- Запішыце тры справы, якія марыце паспець зрабіць за лета. Павесьце спіс на халадзільнік. Праверце ў жніўні. Поспехаў і добрых святаў!




**Як будуць хадзіць аўтобусы на Радаўніцу** старонка 20



**Як арганізм ратуе нас ад смерці і што адбываецца, калі ён не змог** старонка 8







ISSN 1991–7155






Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

## У Маладзечне правялі дабрачынную акцыю па падтрымцы бадзяжных жывёл

МАЛАДЗЕЧНА

**У політэхнічным каледжы зладзілі дабрачынную акцыю «У дапамогу і абарону бадзяжных жывёл». Акцыю арганізавалі па просьбе валанцёрскага руху «Шанец на жыццё».**

Да стварэння таварыства абароны жывёл ішлі даўно. Летась восенню **Веранікa Сакалоўская** стварыла групу ў вайберы «Яны таксама хочуць жыць», куды далучыліся неабыякавыя людзі. На базе гэтай групы стварылі Таварыства абароны жывёл «Шанец на жыццё», старшынёй якога стала **Тамара Сіняўская.**

Таварыства абароны жывёл створанае для папярэджання жорсткасці да катоў і сабак, яно прапагандуе гуманнае стаўленне да іх. Супольнасць прыцягвае да сваёй справы і моладзь.

– Трэба пачынаць з дзяцей, выхоўваць у іх, у першую чаргу, добрае стаўленне да жывёлы. Цяпер у школах, каледжах сталі праводзіць заняткі, тыдні дабрыні. На жаль, іх няшмат, – расказвае валанцёр **Ларыса Трафімава**. – Нават дарослыя часам не ведаюць пра праблему ці наўпрост не задумваюцца, наколькі яна сур'ёзная.

На сустрэчу прыйшлі ўладальнікі сабак з гадаванцамі. **Дзяніс Буркевіч** – кінолаг, які таксама дапамагае сабакам здымацца на расійскім тэлебачанні, ставіць трукі. Напрыклад, ён працаваў у кінастужцы «Мухтар. Новы след». У каледж Буркевіч прывёў ратвейлера **Сімбу**.

**Дзмітры** і **Наталля Батышавы** прывялі ўсходне-еўрапейскую аўчарку **Казбека**. Казбек – абсалютны чэмпіён прыгажосці ў пяці краінах. А яшчэ ён здымаўся ў расійскім фільме «Салдацік», дзе выступалі дрэсіраваныя Буркевічам сабакі.

**Георгій** і **Святлана Чарняўскія** з'явіліся з афрыканскім бурбулем **Балу** і беспароднай **Бусінай**. Апошняга некалі знайшлі валанцёры з Барысава ў смеццевым кантэйнеры, тры разы спрабавалі аддаць у сем'і, але не атрымалася. Чарняўскі ўзяў яе па дагаворы адказнасці, зладзіў курс дрэсіроўкі ў кінолага, і сабака стаў часткай сям'і.

**Падчас акцыі гадаванцы дэманстравалі гледачам разнастайныя трукі, напрыклад, давалі лапу.**

Напрыканцы сустрэчы зладзілі фотасесію – кожны змог сфатаграфавацца з сабакамі. Бадзяжным жывёлам перадалі мяшкі з кормам, лекі, якія студэнты набылі за ўласныя грошы.

**Таццяна КАСЬЯН.**


Фота забяспечана Ларысай ТРАФІМАВАЙ.

Дзяніс Буркевіч і ратвейлер Сімба.


Фота забяспечана сям'ёй Комар.

Так выглядае праезд да дома Комараў.

# Як машыне заехаць у праезд, крыху шырэйшы за два метры

## У чым небяспека вуснай дамовы

МАЛАДЗЕЧНА

**Сям'я Комар з Маладзечна ў верасні 2018 года набыла ўчастак са старым домам на Велікасельскай. Цяпер у крэдыт там будуюць новы дом.**

### Гаспадары: набылі дом, бо суседзі абяцалі сервітут

Па словах гаспадароў, падвезці будматэрыялы да дома праблемна. Праезд да двара – трохі шырэйшы за два метры. Новы гаспадар **Уладзімір**, спрабуючы заехаць на ўчастак, пашкодзіў сваю легкавую машыну.

Можна зрабіць пад'езд ззаду дома, з вуліцы Асіпенкі. Але тут землі агульнага карыстання. Невялікая частка гэтых зямель заходзіць на ўчастак суседзяў.

Новыя гаспадары разлічвалі дамовіцца з суседзямі і ўстанавіць зямельны сервітут – права карыстання зямлёй.

Пра гэта, па словах сям'і Комар, яны вусна дамовіліся з суседзямі. Устанавілі суму – дзвесце долараў. За гэтыя грошы Комары маглі карыстацца зямлёй увесь час.

Калі ж справа дайшла да афіцыйнага афармлення, суседзі заўпарціліся. Сталі павышаць суму да тысячы долараў, а потым і ўвогуле адмаўляцца ад бестэрміновага сервітуту. Сталі казаць, што пад'ездам, крыху шырэйшым за два метры, можна карыстацца.

– Калі б мы ведалі, што суседзі заўпарцяцца, мы б не сталі набываць дом, – кажа Ніна, гаспадыня ўчастка. Да таго ж, па дакументах, праезд шырыняй – 2,85 метра. А ў сапраўднасці – каля 2,40.

Па словах жанчыны, былі розныя варыянты пакупкі дома. Маглі б выбраць іншы. Але перад тым, як набываць, мы дамовіліся з суседкай зрабіць пад'езд ззаду дома на ўмовах сервітуту. Суседка была згодная. Мне спадабалася тое, што праезд не будзе выходзіць на ажыўленую дарогу і мае дзеці бяспечна змогуць гуляць і катацца на роварах, дзяліцца Ніна.

У выніку справа дайшла да суда.

### Сусед: згодныя на сервітут, але часова

На судзе сусед-адказчык заявіў, што не згодны на сервітут:

– Цяпер на той зямлі сенажаць. А праз некаторы час яна можа спатрэбіцца мне для будаўніцтва гаража. Калі суд вырашыць, то мы гатовыя даць сервітут на час, пакуль будуецца дом.

На думку адказчыка, калі ўстановяць сервітут, будзе праблемна прадаць або абмяняць яго дом.

Сума, якую агучыў адказчык за карыстанне зямлёй на пяць год на адным з судовых пасяджэнняў, – дзвесце долаў за раз. Або можна плаціць дзве базавыя штогод, пакуль будуць карыстацца.




Спрабуючы заехаць у вузкі праезд, гаспадар пашкодзіў уласную машыну.

### Новыя гаспадары на часовы сервітут не згодныя

На такія ўмовы Комары не згодныя. Часовы сервітут, на іх думку, – ненадзейнасць. Сям'я плануе пабудаваць не толькі дом, але і лазню. Хвалююцца, як будзе машына прывозіць дровы або заязджаць адпампоўваць каналізацыю.

Ранейшай гаспадыні дровы і брыкет прывозілі і выгружалі проста на праезнай частцы. А яна тачкамі цягала ў двор.

### Эксперт: мінімальная шырыня праезду павінна быць тры з паловай метры

На адным з судовых пасяджэнняў выступіў эксперт, дырэктар судова-экспертнай калегіі **Генадзь Ігнатовіч**.

Ён паведаміў, што мінімальная шырыня праезду павінна быць тры з паловай метры. Пры праездзе, крыху шырэйшым за два метры, па словах эксперта, рух малагабарытнай тэхнікі будзе абмежаваны.

### Суд: доказы не пераканаўчыя, у сервітуце адмовіць

Довады істца спецыялісты палічылі непераканаўчымі. Суд Маладзечанскага раёна прыйшоў да высновы, што Комары змогуць абысціся без сервітуту. Раз дом на працягу дзесяцігоддзяў неяк абслугоўваўся, значыць, для гэтага былі магчымасці.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Графік работы білетнай касы ў Баярах.

# Усю дарогу хвалюешся, што аштрафуюць

МАЛАДЗЕЧНА

**У рэдакцыю «РГ» звярнулася чытачка, якая расказала пра тое, што на цягнікі па маршруце Маладзечна-Мінск вечарам немагчыма набыць білет.**

Калі едзеш з пэўнай станцыі ці прыпынку, напрыклад, з Баяраў, пасля 20:00, касы ўжо зачыненыя.

«Ніколі не ездзіла ў цягніку вечарам. Калі давялося, заўважыла, што набыць білет не магу, бо касы не працуюць. Садзішся ў вагон і ўсю дарогу да Маладзечна хвалюешся, што з'явяцца кантралёры і аштрафуюць».

Мы звязаліся з Беларускай чыгункай.

Згодна з Правіламі перавозак пасажыраў, багажу і грузабагажу чыгуначным транспартам агульнага карыстання, для праезду ў цягніку з ненумараванымі месцамі пасажыр абавязаны набыць білет для разавай паездкі ў адным накірунку ці ў накірунку «туды і назад».

Калі на станцыі ці прыпынку касы не працуюць, а тэрміналу самаабслугоўвання няма, чалавек можа сесці ў такі цягнік без білета. Пры гэтым ён павінны аплаціць праезд і правоз ручной паклажы ў цягніку ва ўпаўнаважанай асобы да наступнага прыпынку.

Бывае, што на прыпынку ці станцыі не працуюць касы і тэрміналы, а ў цягніку не прадугледжаная праца білетнага касіра – кандуктара цягніка. Тады пасажыр можа набыць білет у цягніку ў кантралёра-рэвізора без утрымання камісійнага збору і без прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці. Яму трэба назваць кантралёру чыгуначную станцыю ці прыпынак, дзе сеў у цягнік.

Месца пасадкі кантралёр усталёўвае са слоў пасажыра. Пра гэта паведаміў намеснік начальніка Мінскага аддзялення беларускай чыгункі **Аляксандр Харашэвіч**.

Каб пасажыры набывалі білеты не кожны дзень, на чыгунцы іх можна набыць загадзя: разавыя – за дзесяць сутак, абанементныя – за 30, без утрымання камісійнага збору.

Цяпер узяць білет можна ў касах і тэрміналах самаабслугоўвання. Але працуюць над тым, каб у хуткім часе можна было гэта зрабіць праз Інтэрнэт, мабільныя прылады і тэрміналы з купюра- і манетапрыёмнікамі.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 25.04 | 2.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0944 | **2.1057** |
| Еўра | 2.3495 | **2.3570** |
| Злоты, 10 | 5.4764 | **5.5054** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2757 | **3.2645** |
| Грыўня, 100 | 7.8805 | **7.9769** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **24.04** | **30.04** |
| Еўра | 2.3350/2.3570 | **2.3300/2.3650** |
| Долар ЗША | 2.0850/2.1050 | **2.0850/2.1150** |
| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
| ПРАДУКТЫ | **24.04** | **30.04** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,99 | **21,88** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **3,65** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,20 | **7,21** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **6,20** |
| Селядзец, 1 кг | 3,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,50** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,50** |
| Агуркі, 1 кг | 3,95 | **3,80** |
| Баклажан, 1 кг | 4,99 | **4,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **0,90** |
| Капуста, 1 кг | 2,70 | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 1,20 | **1,40** |
| Памідоры, 1 кг | 5,90 | **5,50** |
| Перац, 1 кг | 6,80 | **7,50** |
| Радыс, 1 кг | 3,50 | **2,80** |
| Салата, 100 г | 1,20 | **1,00** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,80 | **4,30** |
| Бананы, 1 кг | 2,95 | **2,80** |
| Вінаград, 1 кг | 4,90 | **5,50** |
| Грушы, 1 кг | 2,90 | **2,50** |
| Клубніцы, 1 кг | – | **10,00** |
| Лімоны, 1 кг | 3,80 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,40 | **1,40** |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | 25,00 | **22,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## З'явяцца новыя пяці- і дзесяцірублёвыя банкноты

У Беларусі па рашэнні Нацбанка мадыфікуюць банкноты наміналам 5 і 10 рублёў, якія цяпер знаходзяцца ў абарачэнні. З моманту іх выпуску прайшло 10 гадоў, і некаторыя дэталі на іх ужо не актуальныя.

Раней паведамлялася, што ў мадыфікаваных банкнотах зменяць выявы архітэктурных помнікаў. Малюнкі прывядуць у адпаведнасць з актуальным знешнім выглядам з указаннем назвы намаляваных будынкаў.

Таксама на новых банкнотах не будзе рэквізіту «Старшыня Праўлення» і факсіміле подпісу старшыні праўлення Нацбанка Пятра Пракаповіча, які пайшоў у адстаўку яшчэ ў 2011 годзе.

Акрамя таго, на банкнотах заменяць год выпуску ў абарачэнне: замест «2009» для банкнот наміналамі 5 і 10 рублёў – «2019».

Выявы новых банкнот яшчэ няма.

Мяркуецца, што ў 2020 годзе з'явяцца новыя 20- і 50-рублёвыя банкноты.

**Паводле «Нашай Нівы».**

## Забаранялі хадзіць у лес па ўсім рэгіёне

Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» паведаміла прэс-сакратар Міністэрства лясной гаспадаркі Анастасія Дакучаева.

– Пакуль сітуацыя складаная, – адзначала яна. – Як толькі на працягу некалькіх дзён пройдуць моцныя дажджы, забарону здымуць.

Паводле БелТА, 30 красавіка забарону знялі з лясоў Смаргоншчыны, Астравеччыны і Ашмяншчыны.

**Аддзел інфармацыі.**



## Адтэрміналі вылік увознага падатку на дададзеную вартасць

**Указ №151 ад 18 красавіка ўнёс змены ва Указ №99 ад 26 лютага 2015 года «Аб спагнанні падатку на дададзеную вартасць».**

Дакумент прадугледжвае, што сумы падатку, сплачаныя пры ўвозе тавараў з краін, якія не ўваходзяць у ЕАЭС, належаць выліку цягам 30 каляндарных дзён з даты выпуску ў адпаведнасці з заяўленай мытнай працэдурай. Дадзеная форма ўступае ў сілу пасля афіцыйнага апублікавання Указа №151 – ад сёлетняга 24 красавіка.

Адпаведна, адтэрміноўку выліку на 30 дзён прымяняюць у адносінах імпартаваных тавараў, якія ўвезлі з краін, што не ўваходзяць у ЕАЭС. Іх выпусцілі ў адпаведнасці з заяўленай мытнай працэдурай ад 24 красавіка да 31 снежня ўключна. Дату выпуску тавараў указвайце ў графе «С» дэкларацыі на тавары, калі апошні дзень тэрміну прыпадае на непрацоўны, то днём заканчэння будзе бліжэйшы за ім працоўны дзень.

Па таварах, якія ўвезлі да 31 снежня 2018 года ўключна з-за межаў ЕАЭС, падатак прымалі да выліку па сканчэнні 60 каляндарных дзён. Па таварах, якія ўвезлі ад 1 студзеня да 23 красавіка ўключна бягучага года адтэрміноўка выліку не прадугледжаная.

У сувязі з прыняццем Указа №151 парадак выліку падатку на дададзеную вартасць з адтэрміноўкай не змяніўся. Абмежаванне выліку прымяняецца, калі ўвезеныя тавары рэалізуюць або прызначаныя для рэалізацыі на тэрыторыі Беларусі ў нязменным выглядзе і стане. Ці калі ў адносінах увезеных тавараў невядомае або нявызначанае накіраванне далейшага выкарыстання.

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

У сувязі з правядзеннем работ па рамонце чыгуначнага пуці **пераезд 840 км, які перасякае аўтадарога Р-106 паблізу станцыі Пруды Маладзечанскага раёна,** з 9:00 14 мая да 18:00 17 мая

**БУДЗЕ ЗАКРЫТЫ ДЛЯ РУХУ АЎТАТРАНСПАРТУ**

Маладзечанская дыстанцыя пуці УНП 600199567

## У Віліі ў дзень свайго нараджэння патануў маладзечанец

**ВІЛЕЙКА**
**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося ў суботу, 27 красавіка, на Віліі каля Асіпавічаў, што на Вілейшчыне. Выратавальнікам паведамілі пра гэта каля 23:00.

47-гадовы маладзечанец прыехаў на рыбалку на Вілію ў свой дзень нараджэння. У тым месцы, дзе ён рыбачыў, Вілія вельмі глыбокая, каля пяці метраў, расказалі ў Вілейскай выратавальнай станцыі.

Верагодна, рыбак зваліўся ў ваду і не змог выбрацца.

Абставіны здарэння высвятляюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Угоншчыка машыны знайшлі па чыпсах

**МАЛАДЗЕЧНА**

У РАУС звярнуўся 60-гадовы мужчына. Ён паведаміў, што на стаянцы не знайшоў свой аўтамабіль 1984 года выпуску. Шкоду ацаніў у 1400 рублёў.

На месца здарэння выбыла следча-аператыўная група. Аказалася, каб залезці ў машыну, зламыснікам і ўзломваць яе не давялося.

Аўтамабіль гаспадар на ноч пакідаў незамкнёным, з ключамі ў замку запальвання. Быў упэўнены, што нікога машына не зацікавіць.

Праз некаторы час у прыватным сектары па вуліцы Бухаўшчына ўвагу супрацоўнікаў ДАІ прыцягнула «Аўдзі», што стаяла ля дарогі. Аказалася, менавіта яе і скралі ноччу.

Машына была адчыненая, ключы засталіся ў замку запальвання, па салоне раскіданыя чыпсы.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку ўстанавілі асобу ўгоншчыка. Ім аказаўся беспрацоўны 23-гадовы жыхар Маладзечна. Малады чалавек ужо прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за злачынныя дзеянні, звязаныя з аўтамабілямі.

А выйшлі на зламысніка дзякуючы запісам з камер відэаназірання на аўтазапраўках. На адным з запісаў было відаць, як на машыне да аўтазапраўкі пад'ехалі двое мужчын. Купілі піва і чыпсы, зноў селі ў машыну і з'ехалі.

Адзін з іх быў знаёмы аператыўнікам. Месяц таму ён праходзіў па справе аб хуліганстве: камянямі разбіў вокны ў двух дамах у Мясаце.

Спецыялісты ўстанавілі прыкладны ход начных падзей. Нецвярозы падазраваны пазнаёміўся ў адной з крамаў на Старым Месце з 59-гадовым мужчынам.

Вырашылі замацаваць знаёмства застоллем. Калі спіртное скончылася, адправіліся за дадаткам. На стаянцы паблізу АЗС заўважылі «Аўдзі». Убачылі, што дзверы не зачыненыя, а ў замку запальвання тырчыць ключ.

Тады малады чалавек прапанаваў свайму новаму прыяцелю пракаціцца.

Пракаціліся да чарговай АЗС, купілі там піва і чыпсы, адначасова патрапіўшы на запісы камер відэаназірання, а затым адправіліся катацца далей.

Пакатаўшыся некаторы час па Маладзечне, прыяцелі пакінулі машыну ў прыватным сектары і разышліся.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## У лесе знайшлі труп мужчыны

**ВІЛЕЙКА**
**МЯДЗЕЛ**

Гэта 28-гадовы жыхар Мядзела Аляксандр М, што знік у лютым.

Пра тое, што мужчына сышоў з лецішча ў Талуцях Вілейскага раёна і знік, мы пісалі раней.

Мужчыну шукалі некалькі месяцаў і міліцыя, і атрад «Анёл».

26 красавіка труп зніклага знайшлі ў лесе каля вёскі Сцебяракі, расказалі ў Вілейскім РАУС.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Смаргонскія памежнікі паранілі парушальніка мяжы

**СМАРГОНЬ**

Увечары 27 красавіка на ўчастку адказнасці адной з пагранічных застаў Смаргонскай памежнай групы заўважылі невядомага, які знаходзіўся паблізу беларуска-літоўскай мяжы ў памежнай зоне.

Мужчына не падпарадкоўваўся законным патрабаванням памежнікаў спыніцца і паспрабаваў уцячы. Пасля неаднаразовых папярэджанняў памежнага нарада аб намеры выкарыстаць зброю і папераджальнага стрэлу ў паветра парушальніка паранілі.

Грамадзяніну Беларусі 1988 года нараджэння аказалі першую медыцынскую дапамогу, пасля чаго затрыманага даставілі ва ўстанову аховы здароўя.

**Паводле Дзяржпамежкамітэта.**


Фота УУС Мінаблвыканкама.

На месцы здарэння.

# Угналі машыну сабутэльніка, каб з'ездзіць па дабаўку

**ВІЛЕЙКА**

**З заявай пра ўгон машыны ў Вілейскі РАУС звярнуўся жыхар вёскі Язні.**

Мужчына растлумачыў, што напярэдадні вечарам ён адпачываў у кампаніі, а з раніцы не знайшоў пакінуты ля дома грузавік «Фольксваген» LT-35.

Міліцыянеры знайшлі машыну і ўстанавілі меркаванага ўгоншчыка. Ім аказаўся адзін з удзельнікаў кампаніі, які разам з яшчэ адным таварышам ноччу захацелі набыць спіртное, а ісці за дабаўкай было далёка.

Паводле папярэдняй інфармацыі, падзеі развіваліся так. Чацвёра мужчын адпачывалі на дачы са спіртным. Увечары двое адправіліся спаць, а яшчэ двум захацелася працягу. Вырашылі адправіцца «на кропку».

Шлях быў няблізкі, таму прыяцелі вырашылі паехаць на машыне. Ключоў не знайшлі. Таму спачатку разбудзілі ўладальніка машыны, але той адказаў, што ключы, верагодна, у яго знаёмага, які быў за рулём.

Разбуджаны гэтым пытаннем, кіроўца адказаў, што ключы ў барсетцы, але ён ім іх не аддасць, бо яны п'яныя. Дачакаўшыся, пакуль знаёмы заснуць, фігуранты дасталі ключы і паехалі.

У адзін бок дабраліся без прыгод. Купіўшы спіртное і зрабіўшы па некалькі глыткоў, адправіліся назад. У нейкі момант пасажыру захацелася паслухаць музыку, ён закрануў локаць свайго таварыша, а той вывернуў руль. Машына з'ехала ў кювет. Пасля некалькіх беспаспяховых спроб выехаць на дарогу, таварышы кінулі машыну і адправіліся назад пехатой. Прыйшоўшы на дачу, улегліся спаць.

Раніцай кіроўца машыны, не ведаючы пра начныя прыгоды сваіх сабутэльнікаў, выклікаў міліцыю.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## На Вялікдзень згарэў хлеў і абгарэў дом

**СМАРГОНЬ**

Пра пажар паведамілі з вёскі Круні каля 15:00.

У выніку цалкам згарэў хлеў. А таксама знішчаны дах, перакрыцце, пашкоджаныя сцены і маёмасць у доме побач.

Мяркуюць, прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём гаспадыні.

**Паводле МНС.**

## Украінца дэпартавалі з Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА**

З 25-гадовым маладзечанцам хлопец з Украіны пазнаёміўся ў камп'ютарнай гульні. Мужчынскую анлайн-дружбу вырашылі працягнуць і ў рэальным жыцці, прыехаўшы ў Маладзечна пагасціць.

Як аказалася, нагода ў яго была – каб не пайсці на службу ў войска. У Маладзечне госць з Украіны трапіўся за дробнае хуліганства каля клуба.

Рэгістрацыі ў грамадзяніна Украіны не было. Таму фіналам сустрэчы стала яго дэпартацыя з краіны.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## На Вілейскім вадасховішчы незаконна злавілі 112 рыбін

**ВІЛЕЙКА**

Вілейскія следчыя пачалі крымінальную справу аб незаконнай здабычы рыбы, якая прывяла да прычынення шкоды ў асабліва буйным памеры.

Раніцай 25 красавіка на беразе Вілейскага вадасховішча супрацоўнікі Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету затрымалі 43-гадовага мясцовага жыхара і 48-гадовага мінчаніна.

Непрацуючыя мужчыны рыбалоўнымі сеткамі ў перыяд нерасту незаконна здабылі 112 розных рыбін. Прычыненая шкода склала больш за 11 тысяч рублёў, паведаміла афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

На дачы аднаго з фігурантаў знайшлі забароненыя прылады і прадметы, якія выкарыстоўваюцца для незаконнай лоўлі.

У рамках узбуджанай крымінальнай справы следчыя дапытваюць падазраваных. На маёмасць затрыманых наклалі арышт.

Следчыя нагадваюць грамадзянам пра заканадаўства, якое рэгламентуе здабычу рыбы недазволенымі спосабамі, асабліва ў забаронены перыяд.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Гарэла кухня ў двухпакаёвай кватэры

**ВІЛЕЙКА**

Пажар здарыўся 28 красавіка каля апоўначы ў шматкватэрным доме на вуліцы Кастрычніцкай.

Гарэла кухня ў кватэры на другім паверсе трохпавярховага дома.

Ад агню пацярпела кухонная мэбля, падлога, пральная машына.

Як распавялі ў Вілейскім РАНС, цяпер на месцы працуюць інспектары. Высвятляюць прычыну пажару.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Што абраць на Радаўніцу: старадаўнія традыцыі ці новую моду

**Прыйшоў Вялікдзень. Хутка Радаўніца. Большасць беларусаў традыцыйна наведваюць мясціны, адкуль пачаўся іх род.**

Яны аддаюць павагу сваякам, што сышлі ў іншы свет, наведваюць могілкі, прыбіраюць там.

### Як прыбіраць

Праз «Рэгіянальную газету» я хачу звярнуцца да чытачоў і пажадаць ім падчас прыборкі складзіраваць рытуальныя і раслінныя адходы ў вызначаных месцах захоўвання.

Не выносьце смецце нацянькі, каб адразу выкінуць за агароджу могілак. Падграбаючы, не рабіце куч з лісця і звалак на суседніх, нікім не дагледжаных магілках. На жаль, такія выпадкі здараюцца паўсюдна як у нашым, так і суседніх раёнах. Гэта я магу засведчыць як санітарны доктар і вандроўнікадначасова.

### Як фарбаваць

Многія, рыхтуючыся да Радаўніцы, падфарбоўваць агароджы. Як краязнаўца, хачу нагадаць чытачам пра старадаўнія нацыянальныя традыцыі нашых продкаў.

Блакітны колер у міфалогіі беларусаў звязваецца з архаічнымі ўяўленнямі пра замагільны свет, з культам памерлых. Сапраўды, калі прыгледзецца да старых вясковых могілак, то агароджы як агульныя, так і сямейныя на Павіллі, ды і па ўсёй Беларусі, здаўна фарбавалі ў блакітны.

У гэты колер фарбавалі і металічныя крыжы, нават помнікі, вырабленыя з бетону. Гэта адрознівае наш край ад суседзяў.

Сёння блакітны колер захаваўся толькі ў вёсках. На гарадскіх могілках ужо не пабачыш такой фарбы. Не хацелася б, каб гэту традыцыю мы страцілі ад простага няведання.

Заклікаю праявіць свядомасць усіх тутэйшых жыхароў, якія лічаць сябе беларусамі, захаваць гэту нашу адметнасць. Яна някідка вылучае наш край з усіх краін свету.

### Зноў пра штучныя кветкі

Хацелася б выказаць уласную думку пра дыскусію, што разгарнулася ў інтэрнэце ў сувязі з заклікам Міністэрства прыроды і аховы навакольнага асяроддзя пра тое, каб не аздабляць магілкі штучнымі кветкамі.

Штучныя кветкі – некалі новая мода – на нашых вачах ператвараюцца ў новую традыцыю ўпрыгожвання могілак. Прычын таму шмат. Пластыкавыя кветкі куды танней, чым жывыя, яны не сохнуць і не мяняюць фарбу. Такое ўпрыгажэнне здалёк відаць усім сваякам і суседзям, знаёмым і незнаёмым. Маўляў, глядзіце: тут, на малой радзіме, пабылі гарадскія родзічы і ўшанавалі памяць сваіх дзядоў.

Не буду разважаць наконт вялізнай шкоды навакольнаму асяроддзю. Як спецыяліст скажу толькі, што эпідэмічнай небяспекі рытуальныя адходы са штучных кветак і вянкоў не нясуць. Па класу небяспечнасці іх можна аднесці да трэцяга. А самы шкодны і небяспечны – першы клас.

Тым не менш, менавіта тэрытарыяльныя санітарныя службы найбольш з усіх дапякаюць камунальнікаў і сельвыканкамы пастановамі, рэкамендацыямі аб найхутчэйшай прыборцы рытуальных адходаў, расліннага смецця. Пагражаюць штрафамі.

Сённяшні ўзровень эстэтычных светапоглядаў і ўяўленняў большасці пра прыгажосць, каштоўнасць, гармонію жывога і штучнага сусвету дазваляе ўпрыгожваць магілкі рознакаляровымі штучнымі кветкамі.

Могілкі нашага краю апошнія 20 гадоў падчас Радаўніцы здалёк выглядаюць ненатуральна, страката. Вясёлка са штучных кветак, канешне, не замінае тут, але, на мой погляд, парушае сакральную гармонію святога месца.

Даўней камень – як сімвал вечнасці – і крыж – як надзея ўваскрашэння – дамінавалі. А цяпер дамінуюць яркія плямы штучных кветак.

Найпершая якасць штучнай кветкі – фальш. Але на жывыя кветкі ў большасці не хапае грошай.

Куды болей натуральна выглядае на магілках на Радаўніцу, ці, як казаў мой дзед, на Пасху мёртвых, свечка, чырвонае яйка, булка, поўная чарка гарэлкі. Гэта старадаўняя, яшчэ дахрысціянскага часу традыцыя ахвяравання ад жывых мёртвым.

Спадзяюся, са мной пагодзіцца той чытач, які разумее прымаўку «Не ўсё, што блішчыць, – золата».

### Чаму людзі выбіраюць ненатуральнасць

Не можа быць прыгожай пальма ля хаты, вырабленая з ПЭТ-бутэлек. Чаму многія мае суайчыннікі, якія маюць ля хаты ці дачы кавалак зямлі, не шкадуюць часу, каб усталяваць ля брамкі тую фальшывую пальму. Ці не лепш, каб пасадзіць куст бэзу ці язміну?

Чаму з шын выразаюць гумовых лебедзяў? Чаму леснікі, дарожнікі, выхавальнікі дзіцячых садкоў не бачаць, не цэняць і не разумеюць прыгажосць натуральных прыродных узораў і штогод фарбуюць малыя і вялікія камяні?

Але не ўсё згублена. Пакуль яшчэ наўрад ці знойдзем дзяўчыну, якая будзе рада, калі хлопец на спатканне прынясе штучныя кветкі замест жывых.

Заклікаю чытачоў працістаяць хвалі субкультуры і не набываць штучныя кветкі на могілкі. Лепш прыбярыцеігліцу, сухое лісце, запаліце свечку, прыгадайце светлыя вобразы і той час, калі былі разам.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ,**
**загадчык аддзялення камунальнай гігіены Маладзечанскага занальнага ЦГЭ.**




Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Раней традыцыйнымі сімваламі могілак былі камень і крыж. Гарадскія могілкі ў Вілейцы.

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

## Як памінаюць памерлых у Германіі

**Немцы памінаюць сваіх памерлых у лістападзе.**

Гэты месяц змрочны, дажджлівы, сумны. Такі настрой прыроды ўплывае і на настрой людзей.

1 і 2 лістапада каталіцкая царква памінае ўсіх святых, пакутнікаў, памерлых. У сярэдзіне гэтага месяца адзначаюць Дзень усенароднай жалобы. А ў апошнюю нядзелю лістапада падобны дзень адзначаюць пратэстанты.

У дзень памінання памерлых на набажэнствах згадваюцца імёны тых, хто памёр сёлета. А сваякі ідуць на могілкі, дзе спяваюць рэлігійныя песні і моляцца. Царкоўныя званы ў гэты дзень нагадваюць пра хуткаплыннасць жыцця.

Чаму ў пратэстантаў днём для памінання абранай апошняя нядзеля перадапошняга месяца года? З аднаго боку, гэта азначае канец, незваротнасць. Аднак ужо хутка па пратэстанцкай традыцыі зноў загараецца першая свечка адвенту – перадкаляднага перыяду. А гэта сімвал новага жыцця.

Дзень усіх святых бярэ пачатак ад 15 стагоддзя. Першапачаткова рэфарматары не прынялі каталіцкі Дзень усіх святых і не стварылі падобны дзень у пратэстанцкім календары.

Аднак у 1816 годзе прускі кароль Фрыдрых Вільгельм III аб'явіў апошнюю нядзелю Днём памяці загінулых у вайне супраць Напалеона.

Пластыкавыя кветкі на могілкі ў Германіі не нясуць. Толькі жывыя, а таксама карлікавыя кусты і дрэвы.

Шматлікія жыхары гэтай краіны лічаць, што даглядаць магілы даволі цяжка. Асабліва, калі жывеш у іншым горадзе ці па-за межамі Германіі. Таму больш за палову немцаў абіраюць апошнім часам крэмацыю. Так танней. Урна займае менш месца на могілках, яе можна паставіць у калумбарыі – спецыяльным сховішчы ўрн з прахам.

Заканадаўства адносна пахавання больш строгае, чым у суседніх краінах. Напрыклад, у ЗША і некаторых іншых краінах Еўрасаюза людзі могуць захоўваць урны з прахам дома. У ФРГ гэта забаронена.

Сёння нямецкія пахавальныя агенцтвы прапануюць сваякам памерлага іншыя альтэрнатыўныя спосабы пахавання. Напрыклад, можна пахаваць памерлага ў каранях дрэў у так званых лясах жалобы, можна развеяць прах над морам або спрасаваць яго ў сінтэтычны алмаз.

Сёння могілкі ў Германіі, асабліва ў гарадах, сталі служыць альтэрнатывай паркам. Вось як апісваюць іх беларусы: «Тут шмат высокіх старых дрэў, няма дзікага недагледжанага кустоўя. Шмат дзе бачныя кананічныя туі, круглыя акацыі, хаатычныя клумбы. На цэнтральных алеях гуляюць людзі, некаторыя з кошыкамі і садовымі прыладамі».

Могілкі нібы адмаўляюцца быць могілкамі, а ўспрымаюцца як парк.

**Ксенія ДУРОВІЧ**
**паводле dw.com.**

# Маладзечанкі перамаглі на двух міжнародных конкурсах

МАЛАДЗЕЧНА

**Навучэнкі аб'яднання «Народныя крыніцы» Маладзечанскага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі «Маладзік» заваявалі чатыры дыпломы ў міжнародных фестывалях-конкурсах.**

У сакавіку ў Бранску (Расія) адбыўся Міжнародны фестываль-конкурс «Часоў злучальная нітка». **Алеся Зянько** і **Аліна Каленік** атрымалі два дыпломы лаўрэатаў II ступені ў намінацыі «Дэкаратыўна-прыкладная творчасць».

Дыпломы навучэнкі атрымалі за працу «Сусвет», выкананую ў тэхніцы саламянай аплікацыі на тканіне. У аснове кампазіцыі – мандала, дзе галоўнымі элементамі з'яўляюцца круг, квадрат, крыж.

Крыж – універсальны сімвал, уласцівы амаль усім культурам. Сімвалічнае значэнне мандалы прадстаўленае праз сувязь чатырох кропак з цэнтрам і праз цэнтр адзін з адным. Гэта і чатыры бакі свету, і чатыры сезоны, і чатыры напрамкі. Дванаццаць элементаў у цэнтры – 12 месяцаў.

Па перыметры працы размешчаныя дубовыя гаі з крыніцамі па чатырох баках. Дрэвы ёсць у культуры амаль усіх старажытных народаў. Ім пакланяліся, як пасланцам бога. Вязы, кедры сімвалізавалі вечнасць, жыццёвую сілу. Дуб, хвоя, ясень, кіпарыс, пальма – дрэвы, найвялікшыя ў сімвалічным значэнні.

Адзінаццацікласніцы займаюцца ў гуртку з васьмі гадоў. На іх рахунку перамогі ў раённых, абласных і рэспубліканскіх выставах-конкурсах «Беларусь – мая песня!», «Калядная зорка», «Добры дзень, свет!», «Зялёныя аазісы», у міжнародным конкурсе «Катавасія».

Таксама сёлета ў красавіку прайшоў Міжнародны фестываль дзіцяча-моладзевай творчасці і педагагічных інавацый «Кубак Расіі па мастацкай творчасці – Асамблея Мастацтваў». Яго ладзілі ў музейна-выставачным комплексе Маскоўскага акадэмічнага мастацкага ліцэя пры Расійскай акадэміі мастацтваў.

Конкурс – частка сусветнага мастацкага праекта World Art Assembly. Пад яго эгідай робяць падобныя фестывалі ў Піцеры, Мінску, Кіеве, Брацíславе, Лондане і Пекіне.

У гэтым конкурсе навучэнкі аб'яднання **Алеся Зянько** і **Іваліна Хафар** удзельнічалі завочна і атрымалі дыпломы лаўрэатаў II і III ступеняў у намінацыі «Дэкаратыўнае пано». Іваліна спасцігае сакрэты выцінанкі і аплікацыі з саломкі ўсяго другі год. Але ўжо мае некалькі дыпломаў пераможцы раённых, абласных, рэспубліканскіх конкурсаў і міжнароднага конкурсу «Катавасія».

**Вольга МАСЛАВА, педагог ЦТДіМ «Маладзік».**



Начальнік сектара судова-хімічных экспертыз аддзела медыцынскіх судовых экспертыз Маладзечанскага міжрайаддзела Дзяржкамітэта судовых экспертыз Валянціна Яршэвіч.

# Шэсць пытанняў эксперту-хіміку: як арганізм ратуе нас ад смерці і што адбываецца, калі ён не змог

МАЛАДЗЕЧНА

**Чаму нас трасе, калі холадна, і як арганізм хранічнага алкаголіка пачынае забіваць сам сябе?**

Цікавосткі пра сваю працу распавяла дзяржаўны медыцынскі судовы эксперт-хімік Маладзечанскага міжрайаддзела Дзяржкамітэта судовых экспертыз **Валянціна Яршэвіч**.

### Як працуе судовы эксперт-хімік

Маладзечанскі аддзел Дзяржкамітэта судовых экспертыз абслугоўвае Маладзечанскі, Вілейскі, Валожынскі і Мядзельскі раёны. Валянціна Яршэвіч працуе тут дзесяць год.

Яе праца з даследаваннямі выглядае так. Эксперт атрымлівае аб'екты – кроў, мачу, частку шклавіднага цела ці іншую частку цела ахвяры. Уся праца ідзе строга па пратаколе, усё неабходна дакладна фіксаваць. Гэта не проста аб'екты, а рэчавыя доказы.

Задача эксперта-хіміка – прааналізаваць аб'екты. Напрыклад, ці ёсць ва ўзоры вугляkіслы газ, алкаголь і іншыя рэчывы. Гэта не заўсёды проста. Калі рэчыва праходзіць праз арганізм, яго формула змяняецца. Яно ўзаемадзейнічае з іншымі рэчывамі, штосьці ў формуле можа адваліцца, штосьці дадацца.

А эксперт па формуле на выхадзе павінна зразумець увесь шлях аб'екта і чым жа рэчыва было ў пачатку шляху па арганізме. Сучаснае абсталяванне вельмі дапамагае спецыялісту і дае адказы на складаныя пытанні. Атрыманыя звесткі накіроўваюць эксперту, які дае дакладнае заключэнне, што стала прычынай смерці.

### Як арганізм алкаголіка забівае сам сябе

Нярэдкія выпадкі, калі здараюцца перадазіроўкі алкаголем. Для чалавека чатыры праміле – смяротная доза. Канцэнтрацыя алкаголю залежыць ад многіх фактараў – генатыпу, целаскладу, полу, стану здароўя. Хранічныя алкаголікі часам могуць набраць дозу і ў пяць, і ў шэсць праміле. Ёсць выпадкі, калі алкаголю няшмат або зусім няма. А ў паказчыках высокквае ізапрапілавы спірт або ацэтон. Гэта рэчывы, якія ў арганізме быць не павінны, атруты.

> **Хранічнаму алкаголіку не абавязкова выпіць шмат, дастаткова піць доўга.**

Тады чалавек атручвае арганізм настолькі, што той сам пачынае выпрацоўваць таксічны прадукт. Арганізм сам сябе забівае рэчывамі – ізапрапілавым спіртам і ацэтонам. У такім выпадку надыходзіць кетаацыдоз – стан арганізма перад смерцю, калі з'яўляюцца такія таксічныя і атрутныя рэчывы. Гэта і прыводзіць да смерці. Пры хранічным алкагалізме праблема не толькі ў тым, што выпрацоўваецца ацэтон і ізапрапанол. Змяняецца бялковы і ферментны абмены, частая рвота.

Такі ж стан можа ўзнікнуць не толькі ад алкаголю, а таксама пры дыябеце, пераахаладжэнні і галаданні. Атрымліваецца, што галадаць нельга, інакш заганяеш арганізм у гэты ступар.

### Як арганізм змагаецца за жыццё

Арганізм супрацiўляецца вялікім дозам алкаголю. Калі ж бар'ер чалавек пераадолеў, арганізм больш не супрацiўляецца і можа набраць шмат праміле.

Калі чалавек не п'е і раптам вырашыў прыняць, цела ўключае ахоўную сістэму. Пачынае рваць, каб выкінуць частку атруты. Смяротныя дозы набіраюць менавіта моцным алкаголем. У найбольшай рызыцы тыя, хто ўжывае неразведзены спірт.

> **Асобная небяспека чакае тых, хто п'е сурагаты – шклоамывальнікі, шклоачышчальнікі, антыфрызы. У іх складзе ёсць метылавы спірт, сталовая лыжка якога можа выклікаць смерць.**

### Хто памірае ад алкаголю?

Сярод спраў эксперта ўсе смерці ад алкаголю – мужчынскія, ва ўзросце 30-40 год. Набраць чатыры праміле складана, асабліва для жаночага арганізма. Але нават вялікі ўзровень алкаголю можа стаць не самой прычынай смерці, а прыцягнуць яе.

Напрыклад, нецвярозыя трапляюць у аварыі, засынаюць з непатушанай цыгарэтай, могуць задыхнуцца з-за рвоты. У такіх выпадках алкаголь ускосна прывёў да смерці.

Часам здараюцца выпадкі, што чалавек перад смерцю выпіў шмат, а алкаголю, паводле экспертызы, нямнога. Алкаголь трапіў у страўнік, але адурманьванне пачынаецца тады, калі ён усмоктваецца ў кроў.

### Чаму нас трасе, калі холадна

У трупах вызначаюць таксама ўзровень глікагену, якім правяраюць пераахаладжэнне чалавека. Гэта паказчык глюкозы.

Глюкоза неабходная, каб працаваў арганізм. Калі яна ёсць – чалавек у свядомасці, рухаецца. Калі ж цела пераахаладжваецца, пачынае трэсці. Такім чынам арганізм вытрасае з мышцаў, сэрца, пячонкі глікаген. Ён расшчапляецца ў крыві, і такім чынам папаўняецца ўзровень глюкозы.

> **І толькі калі ўжо арганізм скарыстаў усе запасы, адключаецца. Калі чалавек памірае ад пераахаладжэння, у яго шкілетных мышцах глікагену нуль.**

### Чаму ён памёр?

Эксперт-хімік дае адказы на пытанні, якія біяхімічныя працэсы прывялі чалавека да смерці. Здараецца, сваякі хочуць даведацца больш, чым могуць сказаць спецыялісты. Напрыклад, чаму іх сваяк здзейсніў суіцыд. На гэта пытанне можна адказаць толькі, што смерць наступіла, напрыклад, ад асфіксіі. Што ж прывяло да яе, не адкажуць нават самыя дасканалыя прыборы.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**

## Прычыны кровацячэння з лункі выдаленага зуба

Рэгіянальная газета

| | |
|---|---|
| ПАВЫШЭННЕ АРТЭРЫЯЛЬНАГА ЦІСКУ | Фізічная нагрузка<br>Стрэс |
| ГЛАБАЛЬНАЕ ПАРУШЭННЕ СІСТЭМЫ ЗГУСАННЯ КРЫВІ (хваробы ці лекі) | Выпілі аспірын ці цытрамон |
| ЛАКАЛЬНАЕ ПАРУШЭННЕ СІСТЭМЫ ЗГУСАННЯ КРЫВІ (механічнае пашкоджанне згустка) | Паласканне, чыстка зубоў<br>Пад'елі, не пачакаўшы дзве гадзіны<br>Залезлі ў лунку языком ці пальцам |
| РАСШЫРЭННЕ САСУДАЎ | Гарачы душ, лазня<br>Прынялі алкаголь<br>Гарачая ежа ці пітво |

Інфаграфіка Ігара ПАЛЫНСКАГА.





на тлумачыць, што для вас лепей. Выбар медыцынскай установы і спецыяліста за вамі.

Плюс, які цяжка пераацаніць, – магчымасць на месцы зрабіць рэнтген.

Варта ўлічваць: аперацыя выдалення зуба можа запатрабаваць назірання ў пасляаперацыйным перыядзе. Удакладніце, за чый кошт будуць перавязкі. Спытайцеся, ці выдадуць вам лісток непрацаздольнасці, калі для вас гэта актуальна.

### «Усыпіце мяне!»

Наркоз – гэта падарожжа на той свет без гарантыі вяртання.

Паказанні: дзеці да пяці год, псіхічна хворыя, алергікі, якім нельга падабраць прэпарат для мясцовай анестэзіі нават пад прыкрыццём гармонаў. Выпадкі, калі аперацыйнае поле вялікае, і такая колькасць лекаў можа быць таксічнай – неабходна некалькі разрэзаў з глыбокім пранікненнем.

Шаноўныя напалоханыя стаматолагамі! Ваш выбар мусіць супасці з выбарам спецыяліста – анестэзіёлага, які адказвае за ваша жыццё. Дантысту, па вялікім рахунку, пляваць, спіце вы ці дрэмлеце. Наркозам кіруюць анестэзіёлагі, але яны могуць толькі перавезці вас на той бок Леты. Вяртанне адтуль – іншая справа. Як казаў Д'Артаньян, не турбуйцеся, спадарства, назад мы вернемся не ўсе.

Ну, вось вы і ў крэсле. Выдаленню зуба папярэднічае анестэзія. І так павінна быць у кожным разе. Калі ад пацыента патрабуецца гераізм, значыць, у доктара адсутнічае прафесіяналізм.

### Падвойная доза замарозкі

Замарозка можа не браць з розных прычын.

Галоўная з іх – адсутнасць даверу да канкрэтнага доктара, прычына значэння не мае.

Другая – доктар рэдка практыкуецца ў тэхніцы анестэзіі, таму коле не туды. Сучасныя лекі і шпрыцы дазваляюць рабіць анестэзію каля зуба, пры гэтым рызыка ўскладненняў мінімальная, і прэпарата трэба менш. Але прыйдзе той пацыент, якому трэба больш глыбокая анестэзія, а яе апошні раз доктар рабіў у студэнцтве, і не сам.

Трэцяя прычына – казуістычная: гэтаму чалавеку гэты лек, што вада. Насамрэч нават у наркаманаў анестэзія наступае, хоць успрымаецца не так выразна. Іншых прычын, на маю прафесійную думку, няма. Ёсць адно але: усё ж анатомія розніцца, і нават дасведчаны доктар можа з першага разу выключыць толькі частку нервовых ствалоў. Але прафесіянал адчувае, як укалоць другі раз, каб не спатрэбіўся трэці – восьмы.

### Каб не хвалявацца дарма

Анестэзія зубоў наступае не адразу, не імгненна, можа і 15 хвілін наступаць. Чым таўсцейшы нервовы ствол, тым даўжэй. Зверху хутчэй, чым знізу. Спераду – хутчэй, чым ззаду. Калі мозг прызвычаіцца, можа з'явіцца адчуванне, што анестэзія заканчвае дзейнічаць. Сучасныя прэпараты выключаюць нервы на некалькі гадзін.

Анестэзія выключае не ўсю адчувальнасць, а боль. Як правіла, вы адчуваеце дотык, ціск. Не прымайце гэта за боль: вы прысутнічаеце на аперацыі, мозг, які атрымлівае скажоную інфармацыю, лёгка панікуе і спрабуе патлумачыць карціну на свой лад. Нехта можа літаральна не адчуваць, ці ёсць у яго губа, але, дакрануўшыся языком, спалохацца: я ўсё адчуваю! Гэта натуральна: язык жа не замарожаны.

Існуюць канкрэтныя крытэры наступлення канкрэтнай анестэзіі, яны залежаць ад таго, які нерв выключаецца. Калі вам абязболілі верхні зуб, не чакайце, што занямее язык, як у суседа, якому абязболілі ніжні зуб. Увогуле, не прымярайце на сябе суседскую шкуру. Што, у вас усё ж і язык адубеў? Не, вы не марсіянін: канюля на шпрыц была насунутая няшчыльна, прэпарат капнуў вам на язык.

Пры абязбольванні ніжніх задніх і бакавых зубоў у вас можа з'явіцца здранцвенне, адчуванне мурашак на баку анестэзіі: у палове ніжняй губы, вобласці кута рота, шчацэ, зубах і дзяснах, кончыку ці краёчку языка. Гэта класіка.

Бонусам у асобных шчасліўчыкаў ідзе здранцвенне вушной ракавіны, сценкі глоткі, вока – аж да немагчымасці заплюшчыць. Гэта варыянты нормы, усё мінецца разам з анестэзіяй. Здараецца такое і пры абязбольванні верхніх зубоў мудрасці.

Фразу «дзве гадзіны не есці», да сэнсу якой я буду вяртацца ніжэй, трэба ўспрымаць так: «дзве гадзіны не есці, і нават даўжэй, пакуль не адновіцца адчувальнасць у роце». Іначай вы рызыкуеце сябе моцна ўкусіць, бываюць глыбокія раны.

У рэдкіх выпадках боль усё ж адчуваецца, як правіла, калі зуб балеў працяглы час. Гэта хімія: кіслы асяродак запалення не спрыяе працы анестэтыку. Скажыце стаматолагу, у які момант вам баліць. Калі можна нешта з гэтым зрабіць, ён зробіць.

**У тых, хто панікуе, анестэзія як след возьмецца на аўтобусным прыпынку па дарозе дамоў. Яно вам трэба? Значыць, не панікуйце.**

### Колькі мусіць доўжыцца выдаленне зуба

Ад пяці секунд да дзвюх гадзін і даўжэй. Дасведчаны хірург мае прадчуванне, але заўсёды агаворыцца: калі пойдзе так, як выглядае. Гарантаваць можна адно: ніводзін доктар не стане доўжыць маніпуляцыю звыш патрэбы, нават калі прыплаціце.

Кантрольныя рэнтгенаграмы падчас аперацыі – не марная доза радыяцыі, а спосаб пазбегнуць цяжкіх ускладненняў і паскорыць працэс.

### «Яна такая маленькая, у яе проста не хопіць сілы!»

З таго моманту, як з'явіліся хірургічныя стаматалагічныя прылады, хірургу-стаматолагу патрэбная толькі сіла волі, астатняе вырашае тэхніка і кантакт з пацыентам.

**Веданне анатоміі + адчуванне фізікі працэсу + кантакт з пацыентам = выдаленне зуба.**

Калі любы са складнікаў замяніць на фізічную сілу, сума зменіцца ці на «траўматычнае выдаленне зуба з наступствамі» альбо на «выдаленне зуба іншым хірургам», як пашанцуе.

### На волю з чыстым сумленнем?

Дапусцім, вы ўсё яшчэ жывыя. Не расслабляйцеся. Пасляаперацыйныя ўскладненні затаіліся ў кустах. У параўнальна здаровых людзей іх два:

А) інфекцыя на маршы

Б) кровацячэнне.

Не, вам не занеслі інфекцыю. Вы з гэтай інфекцыяй жывяце з той секунды, як ваша мама ўпершыню аблізала вашу пустышку. Проста маніфестуе інфекцыя не круглыя суткі, а пры зручным выпадку. Выдалены зуб нічога не гарантуе. Пакінуты хворы зуб гарантуе пагаршэнне. Такі расклад.

Самае бяскрыўднае ўскладненне – пустая лунка. Ідэальны варыянт – лунка пасля выдалення запоўнілася крывёй, кроў згусцілася ў жоўценькі фібрын – найлепшая біялагічная павязка, пад якой усё зажывае бы на сабаку.

**Парады дзве гадзіны не есці, рот не паласкаць, зубы не чысціць, не перанапружвацца, у лазню не хадзіць, цяжкое не падымаць і іншыя скіраваныя на захаванне фібрынавай плёнкі і папярэджанне кровацячэння.**

Дзеля пункта А існуюць антыбіётыкі ды антысептыкі, тут проста слухайце доктара. Разбяром пункт Б у табліцы.

Перачытайце абзац пра ідэальны момант для выдалення зуба. Усё вельмі проста, праўда?

**Алена ЦЕРАШКОВА,**
**сківічна-тваравы хірург, Мінск.**

## У Валожынскім раёне зноў ладзяць ноч танцаў «У маёвым садзе»

ВАЛОЖЫН

**На хутары «Засценак Скрыплеў» адбудуцца трэцiя фолкавыя танцавальныя спатканнi «У маёвым садзе».**

Месца правядзення – аграсядзіба «Засценак Скрыплеў», Валожынскі раён.

**Прыблізная праграма ночы танцаў:**

**8 мая**

12:00. Заезд удзельнікаў.

14:00-14:20. Пачатак спатканняў.

14:20-16:00. Канцэртная праграма з выступленнямі гуртоў-удзельнікаў.

16:00-17:00. Вольная гадзіна, час падсілкавацца, адпачыць.

17:00-19:00. Майстар-класы па польскіх, украінскіх і славацкіх танцах.

20:00. Пачатак ночы танцаў. Музыкі будуць іграць па чарзе ў адпаведнасці са сваім часам.

**9 мая**

01:00. Фолк-джэм, дзе музыкі могуць іграць змешана, на замовы танцораў.

Зарэгістравацца можна па наступных кантактах: +375 29 1510187, info1@greenteam.by.

Удзел платны. Да 7 мая цана білета 20 рублёў з рэгістрацыяй, 8 мая цана білета 30 рублёў.

**Аддзел інфармацыі.**




Жыхары Вілейкі і Маладзечна змогуць даехаць да могілак на дадатковых аўтобусах.

# На Радаўніцу пусцяць дадатковыя аўтобусы

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**На Радаўніцу і за некалькі дзён да яе зменіцца расклад аўтобусаў у Маладзечне і Вілейцы.**

### Маладзечна

Перад Радаўніцай аўтапарк арганізаваў дадатковы гарадскі маршрут, які будзе працаваць ад 3 да 6 мая.

**Старое Места-Лазавец, 3-6 мая**

Час адпраўлення аўтобуса ад прыпынку «Старое Места» (пасадка пасажыраў ля школы №5) – у 10:00, 10:50, 11:40, 12:30, 13:20, 14:10, 15:00, 15:50.

Час адпраўлення аўтобуса ад прыпынку «Лазавец» – у 10:25, 11:15, 12:05, 12:55, 13:45, 14:35, 15:25, 16:15.

**Радаўніца**

7 мая, у дзень Радаўніцы, арганізуюць дадатковы рух. Ад 9:00 да 16:40 з інтэрвалам руху праз кожныя 12 хвілін ад прыпынку «Старое Места» (пасадка пасажыраў ля школы №5) да прыпынку «Лазавец».

7 мая рух рэгулярнага гарадскога аўтобуснага маршруту №5 на ўчастку: Старое Места – вуліца Велікасельская пройдзе праз АЗС «Юнайтэд Кампані».

Аўтобус па маршруце №6 будзе працаваць па графіках рабочага дня (тры аўтобусы) з прадаўжэннем маршруту да прыпынку «Насілава».

### Вілейка

У аддзеле пасажырскіх перавозак Вілейскага аўтапарка паведамілі, што на Радаўніцу ў горадзе пусцяць некалькі дадатковых аўтобусаў.

**№3**

Два дадатковыя аўтобусы пойдуць па маршруце №3 «Аранжарэя-могілкі «Лясныя». Пачатак руху першага дадатковага аўтобуса – у 9:30, другога – у 10:00. Апошні рэйс з могілак – у 15:30.

**№5**

Адзін дадатковы аўтобус пусцяць па маршруце №5 «Макаўе-могілкі «Лясныя». Пачатак руху з Макаўя ў 9:10. Апошні рэйс з могілак – у 14:40.

Астатнія аўтобусы будуць хадзіць па звычайным раскладзе выхаднога дня.

**Аддзел інфармацыі.**

## Валожынцы даведаліся, як працаваць з праектам, каб яго падтрымалі

ВАЛОЖЫН

**Ад 22 да 24 красавіка прадстаўнікі Валожына паўдзельнічалі ў трэнінгу «Праектны менеджмент і распрацоўка праектных прапаноў».**

Трэнінг ладзіў Офіс па правах людзей з інваліднасцю ў межах праграмы «Павестка 50». З Валожына ў ёй паўдзельнічала псіхолаг тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва **Алена Жданюк** і старшыня раённай арганізацыі «БелТІЗ» актывіст **Міхаіл Невядомскі**.

– На падвядзенні вынікаў праграмы «Павестка 50» у нас, удзельнікаў, спыталі, чаго нам не хапае. Большасць адзначылі, што хацелі б трэнінг па праектнай дзейнасці. Арганізатары прыслухаліся да нашых пажаданняў.

На трэнінгу валожынцы прадстаўлялі чарнавы варыянт праектна-інфармацыйнай кампаніі.

– Не сакрэт, што ў Валожыне, і ў Беларусі ўвогуле, людзей з інваліднасцю ўспрымаюць як нейкіх не такіх. Іх шкадуюць, ім збіраюць грошы. А між іншым, сярод гэтых людзей шмат паспяховых.

Мы разумеем, немагчыма перарабіць свядомасць грамадства за кароткі час. Аднак у рамках нашай інфармацыйнай кампаніі хацелі б зрабіць першыя крокі ў гэтым накірунку.

Па словах Алены, такія трэнінгі карысныя не толькі атрыманымі ведамі, але і знаёмствамі. Валожынцы заўважылі летнік, што ўжо дзесяць год ладзяць для людзей з інваліднасцю ў Століне. Цяпер не выключаюць магчымасці зрабіць нешта падобнае ў сябе.

Узнікаюць пазітыўныя думкі, што не мы адны займаемся такой дзейнасцю. Ёсць людзі, на якіх можна раўняцца. А для некаторых і мы можам стаць прыкладам, кажа Алена.

### Што трэба, каб праект заўважылі і падтрымалі

– Амаль на працягу ўсяго трэнінгу з намі працавалі трэнеры **Вітаўт** і **Лана Руднікі**. Пасля далучыліся кансультанты міжнароднай арганізацыі Pact. Карысна было паслухаць людзей, якія ў розны час былі па абодва бакі праектаў: і сярод тых, хто іх піша, і сярод тых, хто прымае рашэнне падтрымаць праект або не, – расказала Алена Жданюк.

Што ж вынеслі для сябе валожынскія актывісты?

Каб ваш праект падтрымалі, трэба:

• стварыць станоўчы імідж арганізацыі;

• знайсці актуальную праблему;

• прапанаваць свежую ідэю;

• паставіць мэту, якой рэальна дасягнуць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Казінага мосціка праз Вілію не будзе

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» распавёў вілейскі актывіст Віталь Малыш.**

У снежні 2017 года «Рэгіянальная газета» першая напісала пра тое, што прадпрымальнік-энтузіяст з Вілейкі **Віталь Малыш** расставіў скрыні ў крамах Вілейкі і збірае грошы на Казіны мосцік у Вілейцы, які моцна пацярпеў ад стыхіі.

> Праз год, у снежні 2018, скрыні ўскрылі і пералічылі грошы. Атрымалася сума каля дзвюх тысяч рублёў.

Па падліках актывістаў, трэба было 3800. Сабралі больш за палову. Тады Віталь падзяліўся з намі, што не чакаў такога выніку ад маленькага горада, дзе працоўных месцаў мала і заробкі так сабе.

Работы па аднаўленні мосціка планавалі на лета.

Аднак нядаўна актывісты даведаліся, што яны мусяць адмовіцца ад будаўніцтва мосціка.

– Уся праблема ў нашым заканадаўстве, – кажа Віталь.

> – У Беларусі за самабуды прадугледжаная адміністрацыйная і крымінальная адказнасць. А мы планавалі будаваць мост самі.

Па словах актывіста, па законах мост можна пабудаваць толькі з далучэннем інжынерных войскаў. Трэба грошы на іх утрыманне (пражыванне, харчаванне), на паліва для тэхнікі і на яе ахову.

> У выніку сума атрымалася астранамічная. Яе вілейскім актывістам не пацягнуць.

Паўстала пытанне, куды дзець грошы, якія неабыякавыя гараджане сабралі на ўзнаўленне вілейскай славутасці. Запусцілі галасаванне ў вілейскіх суполках у сацсетках. Прапанавалі некалькі варыянтаў: дапамога анкахворым дзецям, вілейскай бальніцы, бадзяжным жывёлам.

> Больш за 80% абралі дапамогу анкахворым дзецям. На тым і спыніліся.

Але актывісты не хаваюць крыўды:

– Вельмі шкада, што два гады хаджэння па інстанцыях і збор грошай не прывялі ні да чаго. Мосціка ў Вілейцы больш не будзе, – дзеліцца Віталь.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Сабралі каля 90 кілаграмаў корму, пасадзілі 50 елак

## У адной з маладзечанскіх школ ладзілі сацыяльны праект «30 добрых спраў»

МАЛАДЗЕЧНА

**24 красавіка ў сярэдняй школе №11 падвялі вынікі сацыяльнага праекта «30 добрых спраў». Дэвіз мерапрыемства – «Дагрукацца да сэрцаў». Падчас сустрэчы кожны клас расказаў пра дасягненні ў рэалізацыі асабістых праектаў, паказаў фотасправаздачу.**




Дырэктар сярэдняй школы №11 Анжаліка Хандзецкая хоча, каб праект стаў традыцыяй школы.

У школе 30 класаў, таму праект назвалі менавіта так.

– Памятаеце, як мы сабраліся ў гэтай зале ў снежні, кожны клас прапанаваў на «Кірмашы ідэй» сваю. І пасля жыццё ў школе закіпела, пацягнуліся нябачныя ніткі ад сэрца да сэрца. Здаецца, што можа значыць адна маленькая справа ў маштабах горада? Яна важная для тых, для каго яе робяць, і для вас саміх, – пачала мерапрыемства дырэктар школы **Анжаліка Хандзецкая**.

**Праекты ладзілі ў шасці намінацыях. Вучні першага класа ўдзельнічалі ў намінацыі «Мы за бяспеку». Яны расказалі вучням як сваёй школы, так і выхаванцам бліжэйшых дзіцячых садкоў пра неабходнасць выкарыстання флікераў. Самі і зрабілі іх, і раздарылі.**

«Школьны буккросінг» рабіў трэці клас. Дзеці прыносілі з дому кнігі, якія хацелі парэкамендаваць аднакласнікам, абменьваліся. Потым падвялі вынік: рэкардсменам па чытанні стаў **Канстанцін Броўка**, якому ўручылі дыплом і падарылі кнігу.

### Самі зрабілі зборнік

Пад дэвізам «Добрае слова – гэта добрая справа» кожную раніцу ў фае першага паверха школы вучні сёмага класа вывешвалі выказванні знакамітых людзей. Галоўны прынцып падбору фраз – іх пазітыўны настрой. Цытаты суправаджалі кароткай інфармацыяй пра аўтараў, каб павысіць агульнае развіццё вучняў. Пасля сямікласнікі апыталі вучняў школы і сабралі топ-5 выказванняў пра дабрыню. Па выніках праекта ў школьнай бібліятэцы з'явіўся зборнік з цытатамі, у якім прысутнічае нават інфаграфіка.

– Ідэй шмат, даўно хацелася зрабіць падобнае. Паняцце дабра, маральнасці вельмі тонкае. Да ідэі зрабіць сацыяльны праект некаторыя вучні спачатку ставіліся скептычна. Але ўцягнуліся. Падтрымліваюць праект некалькі актыўных вучняў з класа – астатнія ідуць за імі, – расказвае дырэктар.

У намінацыі «Рабіць дабро – проста!» школьнікі і бралі шэфства над першакласнікамі, і дасылалі паштоўкі з добрымі пажаданнямі ў Цэнтр карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі. Дзевяцікласнікі дапамагалі малодшым рабіць урокі, а яслі-сад №28 атрымаў у падарунак кнігі, пазлы і настольныя гульні.

### Высадзілі елкі і туі, прытулілі кацяня

«Алея добрых спраў», так называўся праект пятага класа ў намінацыі «Экалагічны марафон». На тэрыторыі школы з'явілася 50 елак. Па словах дырэктара, хутка пасадзяць і іншыя дрэвы.

**Таксама вучні збіралі накрыўкі ад пластыкавых бутэлек і пасадзілі дзве туі.**

Некаторыя класы працавалі сумесна. Напрыклад, у намінацыі «Вялікая дапамога маленькаму сябру» для бадзяжных жывёл школьнікі сабралі каля 90 кілаграмаў корму і перадалі яго валанцёрам. Як зваротны крок, тыя прывялі ў школу дрэсіраваных аўчарак. Дырэктар кажа, што дзецям вельмі спадабалася іх выступленне.

**Адна з навучэнак падабрала кацяне, а потым падумала, што гэта можна аднесці да праекта.**

– Я тады была з сястрой **Палінай**. Пачула званок у дзверы, потым пабачыла пад дзвярыма каробку з кацянём, якое сядзела ў сене. Яно было вельмі чорнае, але калі памылі, стала чорна-белае. У інтэрнэце паглядзелі, як травіць блох. Накармілі і назвалі **Мішам**. Гэта другі наш кот, першага завуць **Міця**. Каты адзін аднаму спадабаліся, – дзяліцца вучаніца 7 «Б» **Марыя Чаўлытка**. – Бабуля заўжды вучыць нас дзяліцца, сам не з'ясі – падзяліся з іншымі. Дзякуючы ёй, магчыма, мы такія міласэрныя.

Сястра Марыі таксама вучыцца ў гэтай школе, у дзясятым класе.

### Дапамаглі набыць бойлер у прытулак

У намінацыі «Рука дапамогі» сямікласнікі дапамаглі набыць бойлер у Пухавіцкі дзіцячы сацыяльны прытулак. Туды збіраўся ехаць пошукава-выратавальны атрад «Анёл», які аб'явіў збор грошай. Вучні і іх бацькі сабралі пэўную суму і аддалі «Анёлу».

Ля школы з'явілася «Птушынае кафэ» – дзеці рабілі кармушкі. Дзевяцікласнікі аднеслі ў гарадскую ветэрынарную станцыю ручнікі і пялёнкі.

Пасля выступленняў кожны прадстаўнік класа прыляпіў лісток з указаннем класа і назвай добрай справы на «Дрэва дабра».

– Плануем зрабіць праект традыцыяй школы. У наступным годзе хочам запрасіць на «Кірмаш ідэй» школы раёна, магчыма, яны патрымаюць і зладзяць падобнае ў сябе, – спадзяецца дырэктар.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

## У Ашмянах адкрылі веласезон

АШМЯНЫ

27 красавіка каля 50 аматараў праводзіць вольны час на двухколавым транспарце сабраліся ў цэнтры горада, каб адкрыць веласезон. Мерапрыемства ўжо стала традыцыяй для Ашмяншчыны, штогод аматараў гэтага спорту становіцца ўсё больш.

Адкрыццё веласезона прымеркаванае да 1 мая.

**Паводле osh.by.**

## У Смаргоні правялі рэспубліканскае першынство па баскетболе

СМАРГОНЬ

Ад 24 да 28 красавіка Смаргонь прымала рэспубліканскі чэмпіянат па баскетболе сярод дзяўчат 2006–2007 гадоў нараджэння. У турніры гулялі каманды ўсіх абласцей Беларусі, а таксама прадстаўніцы Смаргонскай СДЮШАР і Мінска.

Па выніках пяцідзённага супрацьстаяння каманда Смаргонскай СДЮШАР заняла чацвертае месца. Першынство выйгралі сталічныя баскетбалісткі з баскетбольнага клуба «Гарызонт».

**Сяргей ЮРЭВІЧ, паводле shliah.by.**

## ФК «Смаргонь» на дамашнім стадыёне прайграў «Оршы» з лікам 1:2

СМАРГОНЬ

27 красавіка прайшоў трэці тур футбольнага першынства сярод камандаў першай лігі. ФК «Смаргонь» прымаў ФК «Орша». Сустрэча скончылася паражэннем смаргонскай каманды з лікам 1:2.

Лік адкрылі госці. На шостай хвіліне сетку варот «Смаргоні» разарваў **Аляксандр Кучараў**. Падвоіў перавагу «Оршы» на 31-м абароце хвіліннай стрэлкі **Кірыл Карпаў**. Адзіны гол смаргонцы змаглі забіць на 53-й хвіліне. Вызначыўся **Віталь Ганіч**.

**Сяргей ЮРЭВІЧ, паводле shliah.by.**

## У Смаргоні ў міжнародных спаборніцтвах «Дружба» ўдзельнічалі больш за 450 лёгкаатлетаў

СМАРГОНЬ

Ад 24 да 25 красавіка Смаргонь стала спартыўнай пляцоўкай для штогадовых міжнародных лёгкаатлетычных спаборніцтваў «Дружба», якія праводзяць у Смаргоні ў памяць аб першым дырэктары ДЮСШ прафсаюзаў **Станіславу Барташэвічу**. Сёлета спаборніцтвы прымеркаваныя яшчэ і да 75-годдзя ўтварэння Гродзенскай вобласці.

У Смаргонь прыехала больш за 450 спартсменаў, якія прадстаўлялі Брэсцкую, Мінскую, Віцебскую, Гродзенскую вобласці, а таксама лёгкаатлеты з літоўскага Марыямпале.

Барташэвіч усё жыццё прысвяціў лёгкай атлетыцы. Калі быў трэнерам, выхоўваў спартсменаў на бегавых дыстанцыях. Пасля прызначэння на пасаду дырэктара падключыў усе арганізацыйныя рэсурсы для паспяховага развіцця ДЮСШ. Але жыццё распарадзілася па-іншаму. У памяць пра яго вырашылі праводзіць гэтыя спаборніцтвы.

У сёлетнім першынстве спаборнічалі юнакі і дзяўчаты ў дзвюх узроставых групах – 2004–2005 гадоў нараджэння і 2006 года нараджэння і маладзейшыя. Праграма спаборніцтваў складалася з бегу на 100, 200, 400, 800, 1500 метраў, скачкоў у даўжыню, патройнага скачку, штурхання ядра і змешанай эстафеты.

Смаргонскія спартсмены на турніры заваявалі 12 залатых медалёў у асабовым першынстве і золата ў змешанай эстафеце. Пераможцамі спаборніцтваў сталі **Раман Антохін** (100 і 200 метраў), **Аліна Апановіч** (400 і 800 метраў), **Ягор Мончак** (скачок у даўжыню), **Бажэна Козел** (1500 метраў), **Настасся Масквіціна** (800 метраў), **Арцём Курбачоў** (400 метраў), **Уладзіслаў Пазняк** (1500 метраў), **Данііл Савіцкі** (1500 метраў), **Алёна Саковіч** (штурханне ядра) і **Вадзім Берагарулька** (трайны скачок).

Пераможцаў і прызёраў узнагародзілі медалямі і дыпломамі ўпраўлення спорту і турызму Гродзенскага аблвыканкама, пераможцаў – спартыўнымі футболкамі з лагатыпам спаборніцтваў.

Лепшымі спартсменамі спаборніцтваў прызналі Аліну Апановіч, Рамана Антохіна, **Варвару Кажарновіч**, Ягора Мончака, Уладзіслава Пазняка, Бажэну Козел і Настассю Масквіціну.

**Сяргей ЮРЭВІЧ, паводле shliah.by.**



Фота Андрэя РАГІНСКАГА.

У ФК «Маладзечна» Мікіта Дудо прыйшоў летась.

# «Выхад у першую лігу – канкрэтная задача каманды»

## Пра што расказаў лепшы гулец ФК «Маладзечна» мінулага сезона Мікіта Дудо

МАЛАДЗЕЧНА

**Дудо – лепшы гулец сезона-2018 на думку заўзятараў клуба. Паўабаронца з'яўляецца выхаванцам футбольнага клуба «Мінск», выступаў у яго складзе на турніры ліцэнзавання, а таксама ў дублі асноўнай каманды.**

У 2014 годзе дэбютаваў за ФК «Мінск» у вышэйшай лізе. У ФК «Маладзечна» прыйшоў летась. Апошнім клубам перад гэтым быў ФК «Зорка-БДУ» (другі дывізіён).

Як расказваў футбаліст раней, у ФК «Маладзечна» ён трапіў дзякуючы добраму сябру, які параіў яго галоўнаму трэнеру **Аляксею Вергеенку**.

Мікіта Дудо адкрыў лік сваім голам за клуб у цяперашнім сезоне. Забіў апошні – юбілейны, дзясяты мяч.

**– Мікіта, як гэта – быць на самым версе турнірнай табліцы?**

– Мінімальна, але радуе. З кожным турам такое становішча ў табліцы будзе радаваць яшчэ больш. А мы прыкладзём усе намаганні для гэтага.

**– Як ацэньваеш падрыхтоўку да сезона?**

– Лічу, для другой лігі мы вельмі паспяхова падрыхтаваліся. Своечасова выйшлі з «адпачынку» і зладзілі шмат трэніровак і спарынгаў з добрымі сапернікамі.

**– Як увогуле гатовая каманда, партнёры, ты сам?**

– Думаю, усе гатовыя. У параўнанні з мінулым годам каманда падрыхтавалася нашмат лепш. Асабіста я вельмі чакаў пачатку чэмпіянату. Але перад самым стартам у таварыскай гульні атрымаў невялікае пашкоджанне, якое і цяпер турбуе. Хочацца быць гатовым на сто працэнтаў, каб радаваць нашых заўзятараў.

**– Якія мэты ставіце з партнёрамі для сябе сёлета?**

– Выхад у першую лігу – гэта канкрэтная задача каманды. І гледзячы, як змянілася каманда і трэніравальны працэс у параўнанні з мінулым годам, лічу, задача цалкам выканальная. Будзем старацца.

**– Дарэчы, ведаў, што паклаў дзясяты мяч за «Маладзечна»?**

– Не задумваўся пра гэта, але атрымліваецца так.

**– З першым юбілеем.**

– Дзякуй! З першым і не апошнім.

20 красавіка маладзечанскі клуб разграміў смалявіцкі «СМІаўтатранс» з лікам 5:1. Праз тыдзень ФК «Маладзечна» перамог ФК «Клецк», лік – 4:1.

Наступны матч каманды адбудзецца 5 мая ў Маладзечне. Згуляюць з «Энергетыкам-БДАТУ» (Мінск).

**Прэс-служба ФК «Маладзечна».**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Працяглае ўзбуджэнне нервовых цэнтраў і мышачных тканак, якое не суправаджаецца стомай і абумоўлівае пэўнае функцыянаванне органаў.
3. Прыстасаванне пры калодзежы для даставання вады, якое складаецца са стойкі, рычага-вагі і вочапа.
5. Плод дуба.
6. Складаная, заблытаная справа ў судовай практыцы.
8. Сорт чырвонага дэсертнага вінаграднага віна.
13. Пітво з садавіны, ягад, прыгатаваных у вадзе з цукрам.
15. Супрацьлеглае бруду.
16. Пералік лічбавых дадзеных або звестак, размешчаных у пэўным парадку па графах.
17. Назва вёскі Граўжышкаўскага сельсавета ў Ашмянскім раёне, дзе размешчаны адзін з пунктаў Дугі Струвэ.
19. Астранамічны аптычны інструмент для назірання за нябеснымі свяцiламі.
22. Чалавек, ад якога ўсе адхіліліся, які страціў сваё становішча ў грамадстве; адшчапенец.
24. Конніца.
25. Дошка, палена або некалькі пален, пакладзеных для пераходу цераз раку, балота, гразкае месца.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Запалохванне пагрозай выкрыцця або паведамлення непажаданых звестак з мэтай вымагання.
4. Тое, што і ліхаманка, малярыя.
5. Звычайная, бытавая назва малавугляродзістай сталі.
7. Вучоныя высветлілі, што некаторыя расліны могуць выцягваць з глебы розныя рэчывы. Гарчыца чысціць зямлю ад цяжкіх металаў, кукуруза – ад свінцу. Каб ачысціць глебу ад стронцыю і цэзію, вывелі генетычна мадыфікаваную расліну. Гэта расліна была адной з крыніц натхнення Ван Гога.
9. Аканіт – адна з самых атрутных раслін у свеце. Адварам з яго старажытныя галы намазвалі пэўны від зброі, каб паляваць на буйных драпежнікаў. Адсюль і пайшла назва расліны. Назавіце значэнне старажытнагрэчаскага слова, ад якога паходзіць слова «аканіт».
10. Які мае колер сажы, вугалю, самы цёмны з усіх колераў.
11. У 1903 годзе амерыканскія газеты прадказвалі, што на стварэнне гэтага прадмета можа спатрэбіцца 10 мільёнаў год. Але ўжо праз восем год амерыканскія канструктары-самавучкі не толькі сабралі першы гэты прадмет, але і змаглі на 12 секунд паспяхова скарыстаць па прызначэнні. Пасля прадмет рабілі ўсё больш дасканалым, і ён стаў натуральнай часткай сучаснага свету.
12. Адна з самых вядомых эканамічных гульняў, якую прыдумалі ў час Вялікай амерыканскай дэпрэсіі.
14. Прозвішча знакамітага геолага, які паходзіць з Беларусі, але большую частку жыцця правёў у Чылі. Там яго назвалі нацыянальным героем.
18. Прагорклы, з непрыемным рэзкім пахам (пра нясвежыя тлушчы).
19. Тое, у чым захоўваецца або перавозіцца тавар.
20. Самы вялікі вулкан сонечнай сістэмы знаходзіцца на Марсе. Назву яму далі ў гонар антычнай пляцоўкі для багоў.
21. Кастрыраваны наглядчык за жанчынамі ў гарэме.
23. Сто араў.

## Адказы на крыжаванку з №17

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Дэпутат. 2. Галава. 3. Піва. 8. Соль. 9. Салома. 10. Скрыпка. 11. Дэспат. 12. Лухта 17. Раднёй. 18. Лязо. 22. Кенія. 23. Жанчына. 24. Смецце.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Гараж. 4. Вугаль. 5. Лясгас. 6. Свіслач. 7. Гвардыя. 9. Сасіска. 13. Жывапіс. 14. Хвіліна. 15. Асфальт. 16. Казёл. 19. Чырвоны. 20. Самамэта. 21. Годнасць. 23. Жменя.



## ● ГАРАСКОП 3-9 МАЯ

**АВЕН.** Вам давядзецца вырашаць мноства розных пытанняў, але не заўсёды ваш выбар будзе правільны. Не ігнаруйце парады навакольных, у складаных сітуацыях звярніцеся па дапамогу да тых, каму можна давяраць. Інакш вы рызыкуеце нарабіць памылак, і на іх разбор сыдзе яшчэ больш сіл і часу.

**ЦЯЛЕЦ.** Усе дні будзеце адчуваць сябе цалкам камфортна. Вам давядзецца вырашаць пытанні асабістага характару, магчымыя новыя знаёмствы. У любым выпадку перыяд спрыяльны для вас.

**БЛІЗНЯТЫ.** Вы вытанчаная і адчувальная натура, схільная эмацыйна ставіцца да спраў, што не заўсёды спрыяльна, але не ў гэты раз. Цяпер вы можаце смела давяраць сваёй інтуіцыі і абавязку сэрца ва ўсім, што тычыцца вырашэння пытанняў фінансавага характару. Плануйце на гэтыя дні сустрэчы і зносіны з дзелавымі партнёрамі, начальствам. А выхадныя цалкам прысвяціце сям'і ці сабе.

**РАК.** Калі на вашу долю выпалі розныя няшчасці, то радуйцеся – яны заканчваюцца. І ніколі не пасуйце перад цяжкасцямі – у вас заўсёды будзе дастаткова сіл, каб іх пераадолець, трэба толькі паверыць у гэта і захацець. Вы самі творца свайго шчасця.

**ЛЕЎ.** Цяпер з вас можна будзе браць прыклад, бо вы будзеце паспяховыя ва ўсіх пачынаннях і зможаце па праве сабой ганарыцца.

**ДЗЕВА.** Вам усё ж давядзецца заняцца тымі справамі, якімі вы вельмі не хацелі займацца і ўвесь час адкладвалі на потым. Вось гэта самае «потым» і наступіла.

**ШАЛІ.** Важным момантам гэтых дзён з'яўляецца магчымасць дамагчыся пастаўленай яшчэ даўно перад сабой мэты, якой бы яна ні была.

**СКАРПІЁН.** Як бы вы ні стараліся, вы ўсё ж наробіце глупстваў і па дробязі, і па-буйному. І гаворка ідзе пра памылкі ў зносінах з людзьмі. Вы можаце сказаць нешта лішняе, паведаміўшы тое, што лепш бы нікому, акрамя вас, не ведаць, ці проста будзеце грубымі і рэзкімі ў зносінах, што прывядзе да сваркі.

**СТРАЛЕЦ.** Вы будзеце пагружаныя ў глабальныя справы, займацца сур'ёзнымі пытаннямі, таму вам будзе не да дробязяў. Узнікае нейкі адрыў ад навакольных вас людзей, але ў канчатковым выніку гэта пойдзе вам на карысць.

**КАЗЯРОГ.** Вам трэба будзе праходзіць рознага роду выпрабаванні: гэта могуць быць і экзамены, і праверка вашых ведаў ці спроба ў чымсьці выкрыць вас. У любым выпадку гэта важна. Таму не рабіце ніякіх неабдуманых учынкаў.

**ВАДАЛЕЙ.** У нейкі момант часу вы можаце адчуць сябе адзінокім і ўсімі пакінутым чалавекам. На шчасце, такі стан пратрымаецца толькі гэтыя дні, не больш.

**РЫБЫ.** Вы адчуеце прыліў энергіі, ваша дзейнасць актывізуецца. Перш за ўсё, гэта добра адаб'ецца на працы. А яшчэ вас пачнуць наведваць розныя ідэі аб тым, як палепшыць сваё становішча ў той ці іншай сферы.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | 6 | 1 | | | 4 | | | 9 |
| | | 9 | | 3 | 7 | | | |
| 3 | | | | 6 | | | 4 | |
| | 1 | | 2 | | 6 | | 9 | |
| | | | | | | 2 | 5 | 4 |
| | | 4 | | 7 | | 1 | 6 | |
| | | 3 | | | 8 | | 2 | |
| | 7 | | | | | 9 | | 1 |
| | | 8 | | | | 5 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


## Чытайце праз тыдзень

Дзве гісторыі. Журналіст трымае ў руках паштоўкі, напісаныя сваім бацькам Анютай, якую нацысты забралі ў працоўны лагер. І лісты бацькі Іосіфа Данатавіча сыну Дзмітрыю на фронт. Ні Анюта, ні Дзіма дадому не вярнуліся. Анюта патрапіла пад бомбы саюзнікаў, Дзмітрый, як і яго брат Усевалад, загінулі ў баях з войскамі вермахта.

## ПТУШКА НА ХВАСЦЕ ПРЫНЕСЛА

Маршрутка Мінск-Маладзечна.
– На лядовіку спыніцеся, калі ласка.
– Ооо, ты что, типа беларускамовная?
– Ды не, вы што, вам падалося.
– Ну и хорошо, а то я на белорусском этом не понимаю совсем.
– Слухайце, а можа спынецеся далей, на прыпынку за скрыжаваннем? А то ў мяне торба цяжкая.
– Довезём твою торбу.
– А казалі, што не разумееце...
– А ты меня проверяешь, разумная такая?
– Яшчэ і гаворыце. Разумная – гэта па-беларуску.
– ...Блин, точно.

## На Вілейскім вадасховішчы адкрылі купальны сезон

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» расказалі ў Вілейскай выратавальнай станцыі.**

Па словах начальніка станцыі Ягора Роўды, 27 красавіка купальшчыкі таксама былі, але менш.

А вось на Вяліксдзень, 28 красавіка, ахвотных паплаваць было нямала.

**Выратавальнікі нават мусілі выставіць буі.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

Тэмпература вады +7 градусаў не была перашкодай для адкрыцця купальнага сезона.



## 4 мая, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 7-8 м/с

| Горад | Ноччу | Днём | Надвор'е |
| --- | --- | --- | --- |
| Астравец | -1 | +7 | Значная воблачнасць |
| Мядзел | 0 | +10 | Значная воблачнасць |
| Вілейка | +2 | +11 | Хмарна |
| Смаргонь | 0 | +8 | Хмарна |
| Ашмяны | -1 | +7 | Хмарна |
| Маладзечна | +2 | +11 | Значная воблачнасць |
| Валожын | +2 | +9 | Значная воблачнасць |

Усход 5.29
Захад 20.49
Даўжыня дня 15.20

Усход 5.54
Захад 20.03
Маладзік

### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -3,2°C у 1965 годзе
Максімальная тэмпература +27,9°C у 2018 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 15,8 мм у 1991 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Пра што вы размаўляеце з кіроўцамі таксі?

**Аляксей Няважна, ахоўнік:**
– Пераважна пра працу, далей – як пойдзе. Бывае, нітачкі не звяжуцца. Зразумець кіроўцаў можна, столькі людзей у дзень, хтосьці дае энергію, нехта адымае. Цікава пагаварыць пра «вайну» паміж службамі, гэта пацешна.

**Вераніка Зара, працуе ў банку:**
– Як правіла, пра надвор'е, калі дзень толькі пачаўся. Таксісты – народ даволі гаваркі, ініцыятары размовы. Гутарыць можна на любыя тэмы. Не адзін год, праведзены з адным перавозчыкам, спрыяў таму, што кожнага другога ў штаце супрацоўніка бачыш не ўпершыню.

**Юры Гардзей, кіроўца таксі:**
– Сам кірую таксі. З чалавекам, які мне сімпатычны, размаўляю пра цяжкасці жыцця, дрэнныя дарогі і надвор'е. З іншымі – гляджу ў акно, адчэпліваюся агульнымі фразамі. Ідэальны асабіста для мяне таксіст: маўчыць, пакуль не пачну размову сам, калі захачу.

**Настасся Пятроўская, мантажнік радыётэхнічнага абсталявання:**
– Часам размаўляю на розныя тэмы. Кіроўцы бываюць вельмі таварыскія. Пра здарэнні ў горадзе, надвор'е, прыроду. У сувязі са з'яўленнем новай службы, таксі карыстаюся перыядычна. Добрая служба, новыя машыны. Прыемна звяртацца па іх паслугі.

**Уладзімір Бартош, электраманцёр:**
– Размаўляю з кіроўцамі пра абслугоўванне машыны, пытаюся, якія можа даць парады. Усе на дарозе аднолькавыя і гатовыя дапамагчы.

**Юлія Бабашынская, арганізатар і вядучая мерапрыемстваў:**
– Рэдка езджу на таксі. Нават не ведаю нумары службаў. Звычайна не адцягваю ад язды. Але калі нешта цікавіць, мне заўсёды адказваюць. Часцей за ўсё пытаюся пра рамонт дарог, праезд, маршрут, новыя падзеі – таксісты заўжды ў курсе навінак.

**Вікторыя Галюк, у дэкрэтным адпачынку:**
– Калі кіроўца настроены размаўляць, то падтрымліваю. Але цяпер паслугамі таксі карыстаемся рэдка, я ў дэкрэце. З-за «цёрак», якія здарыліся паміж службамі, перавагу аддалі адной з іх. На жаль, на выхадных выклікаць гэтае таксі вельмі складана.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№18 (1253) 3.05.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 679. Падпісана ў друк у 9.00 1.05.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.